ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# Былы супрацоўнік МВФ заяўляе аб спробах КДБ прымусіць яго даць паказанні супраць Міхаіла Чыгіра

Генадзь БАРБАРЫЧ

**Былы памочнік саветніка Міжнароднага валютнага фонду Уладзімір Огнеў заявіў у інтэрв'ю БелаПАН аб тым, што супрацоўнік КДБ прапанаваў яму даць паказанні супраць экс-прэм'ера Беларусі Міхаіла Чыгіра.**

Огнеў займаў пасаду памочніка саветніка МВФ у прадстаўніцтве гэтай арганізацыі ў Мінску з 1996 па жнівень 2000 года. Раней, з 1991 па 1996 год Огнеў працаваў у прадстаўніцтве сумеснага прадпрыемства *American Logic*, якое размяшчалася ў Мінску ў адным будынку з фірмай «Пушэ». Паколькі ў «Пушэ» не было ўласнага перакладчыка, фірма актыўна карысталася паслугамі Уладзіміра Огнева. У лістападзе 1992 года ў якасці перакладчыка ён выязджаў з намеснікам кіраўніка «Пушэ» ў Швецыю для заключэння гандлёвых здзелак. Супрацоўнікаў КДБ, што, як сцвярджае Огнеў, упершыню выйшлі на яго ў 1998 годзе, а больш канкрэтна і настойліва — у красавіку 2000 года, цікавіла менавіта гэтая паездка, з якой прыватным чынам была прывезеная бензапіла. «Супрацоўнік КДБ пры сустрэчы прасіў мяне, — сказаў Огнеў, — калі спатрэбіцца — на допытах або судзе — паказаць, што гэтая піла прызначалася ў якасці хабару Міхаілу Чыгіру. Ён працаваў тады старшынёй Белаграпрамбанка і меў дзелавыя адносіны з «Пушэ».

Другая просьба датычылася дзелавых перамоваў кіраўніцтва «Пушэ» з замежнымі партнёрамі, якія перакладаў Огнеў. «Мяне прасілі заявіць, — сказаў ён, — што ў гэтых перамовах заходнім партнёрам часта прапаноўваліся фальшывыя, фіктыўныя пастаўкі з той мэтай, каб пад гэтыя пастаўкі фірма магла атрымаць у банку крэдыты». Хаця імя Чыгіра пры гэтым не ўзгадвалася, але, верагодна, лічыць Огнеў, супрацоўнікі спецслужбаў спрабавалі правесці сувязь паміж «Пушэ» і Белаграпрамбанкам, які даваў фірме крэдыты.

Супрацоўнік КДБ пакінуў Огневу сваю візітку, а ў далейшым званіў па тэлефоне. 20 ліпеня, да прыкладу, цікавіліся работай Уладзіміра Огнева, у якога ў жніўні заканчваўся кантракт з МВФ. «Мне намёкамі давалі зразумець, што яны добра ведаюць аб маім асабістым жыцці, — сказаў перакладчык. — Я расцаніў гэта як шантаж». Пасля скасавання кантракта з МВФ перакладчыку прапанавалі работу ў Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь, пры гэтым, па ягоных словах, прад'явіўшы ўмову — неабходна ўхвала КДБ.

Абвясціць вышэйпералічаныя факты Уладзімір Огнеў вырашыў таму, што ўпэўнены — яму не дадуць спакою, калі не расказаць пра тое, што адбывалася. Яго таксама абураюць метады, якімі ўлада, на ягоную думку, спрабуе дыскрэдытаваць Міхаіла Чыгіра.

Спроба карэспандэнта БелаПАН звязацца з супрацоўнікам КДБ па ўказаным ў візітцы тэлефоне для атрымання каментарыя не прывяла да поспеху. Было паведамлена, што гэты супрацоўнік камітэта пераведзены ў іншае падраздзяленне. А ў прэс-службе Камітэта дзяржбяспекі не сталі каменціраваць заяву Огнева, спаслаўшыся на тое, што КДБ не займаецца справай Чыгіра. ■

БелаПАН

РЭХА

# Няма мазгоў — лыжкай не накладзеш

У мінулым нумары мы змясцілі матэрыял Мікіты Паўлава «Александр Григорьевич сердится». У ім мы, у прыватнасці, паведамлялі пра тое, што А.Лукашэнка вельмі незадаволены бяздзеяннем праваахоўных органаў у дачыненні да Тамары Віннікавай, якая практычна адкрыта жыве ў Лондане, а следчыя органы ніяк не могуць яе знайсці нават праз Інтэрпол.

Гэтымі днямі мы атрымалі даволі нечаканы водгук на публікацыю. Па электроннай пошце з намі звязалася сама былая галоўная банкірка. Вось што яна напісала (друкуецца на мове арыгінала, арфаграфія і пунктуацыя захаваныя):

*«Уважаемый Никита Павлов!*

*Спасибо за красочную характеристику моей охраны.*

*На Западе распространены слухи, что Глава государства очень часто выглядит уставшим, болезненным, в плохом настроении.*

*В такой ситуации, когда он возможно серьезно болен, мне не хотелось бы его расстраивать лишний раз (Вы написали, что он был расстроен).*

*Но и успокоить его мне нечем.*

*К сожалению, похоже он не знает, что Интерпол не занимается кастрюлями, которые я, якобы похитила. К тому же, они находятся в ведомстве г.Божелко, т.е. ущерба нет.*

*Буду благодарна, если Вы сможете передать ему со страниц Вашего издания, что для ведения любого уголовного дела нужны мозги. А вот для фабрикации уголовного дела, их нужно иметь в десять раз больше.*

*Моя бабуля по этому поводу говорила, что если мозгов нет, то ложкой не наложишь.*

*С уважением, Тамара Винникова»*


Фота «Ю С Ньюс» (www.yusnews.com)

# Военная тайна российских адмиралов

Владимир ТЕМНЫЙ

**В понедельник утром норвежским водолазам удалось открыть верхнюю крышку аварийно-спасательного люка девятого отсека подлодки «Курск». В шлюзовой камере никто не обнаружен. От использования английской мини-подлодки LR-5 решено отказаться. Еще в субботу командование Северного флота признало, что экипаж подлодки был обречен. Однако президент Путин заявил, что спасательные работы будут продолжаться до последнего момента.**


● Атомная субмарина до катастрофы.


● Слезы родных по погибшим морякам


● Норвежское спасательное судно пригласили слишком поздно

В субботу, когда начальник штаба Северного флота Михаил Моцак наконец-то объявил о том, что моряки «Курска» еще в понедельник подавали сигналы о поступлении в отсеки воды, стало ясно — экипаж был обречен. И в первую очередь командованием флота, которое прекрасно знало, насколько «травмы» прочного корпуса несовместимы с жизнью подводников. Отсюда и мрачный, погребальный тон, вопреки всем морским традициям, взятый главкомом ВМФ Владимиром Куроедовым в самом начале спасательной операции. И однообразность попыток состыковаться с комингс-площадкой кормового отсека — ни одного альтернативного варианта, ни одного шага в сторону от шаблона. И, наконец, отказ от помощи иностранцев.

Между тем, лишь за несколько часов работы на грунте англичане и норвежцы полностью обследовали весь корпус, сделали качественную видеосъемку и сумели найти на комингс-площадке аварийно-спасательного люка борозду, которая делала бесполезным использование «колокола». Наконец, им удалось «отдать», то есть отвинтить вентиль кормового люка, и к утру в понедельник верхняя крышка была открыта. Если бы норвежцы пришли сюда в прошлый понедельник...

По предположениям водолазов, внутри капсулы аварийно-спасательного люка мог находиться человек — гонец последней надежды, пытавшийся выйти на поверхность в легководолазном костюме. Однако в шлюзовой камере 9-го отсека норвежцы никого не обнаружили. Сумей кто-то из моряков выбраться на поверхность — и спасательная операция, вероятно, пошла бы по другому сценарию.

## Бомбометание по своим

Российские специалисты не только оказались беспомощными перед глубиной 100 метров, но и до сих пор гадают на кофейной гуще — как и почему атомоход оказался на дне. Версия вице-премьера Ильи Клебанова: столкновение с «подводным предметом, не менее 8 тысяч тонн водоизмещением». Столкновение, забор воды в пробоину, взрыв аккумуляторной батареи с одновременной детонацией боезарядов в торпедах.

С кем мог столкнуться «Антей», подводный исполин водоизмещением 24 тысячи тонн? Причем так, что сам оказался на дне, а второго «участника происшествия» и след простыл? Затем английской или американской подлодке в случае столкновения с российской субмариной в нейтральных водах отмалчиваться? Нет тут никаких резонов — ни политических, ни военных. Такие ЧП на подводных перекрестках случались и раньше. И никому в голову не приходило наводить тень на плетень. То есть вариант, конечно, может иметь место, но концы с концами тут не сходятся.

Идеально подходящей может быть такая версия — попадание российской лодки в зону глубинного бомбометания российских же кораблей. По плану учений такое боевое упражнение корабли Северного флота проводили во второй половине дня в пятницу, 11 августа. По неофициальным данным, которыми располагают *Vesti.Ru*, последний раз сеанс связи у «Курска» был в 16.00 в пятницу. Хватились подлодки лишь после полуночи, когда она не вышла на связь согласно установленному режиму ЗАС (засекреченная автоматическая связь). Координаты установили в субботу, ближе к 8 утра. Таким образом, вполне вероятно, что подводный корабль мог оказаться в зоне бомбометания.

Если это так, то разрыв, а тем более прямое попадание глубинной бомбы в субмарину могло значительно покорежить прочный корпус, вызвать механические повреждения внутри корабля. Командир успел отдать команды «Боцман, всплывать!» и «Поднять выдвижные устройства!», после чего сработала аварийная защита обоих реакторов и лодка потеряла ход. Аварийная энергетика по каким-то причинам отказала. Удар о каменистое плато на глубине 80 метров вызвал новые разрушения, взрыв аккумуляторной батареи, детонацию боеприпасов. После чего лодка скатывается по наклонной плоскости еще на тридцать метров.

Гидроакустики надводных кораблей вполне могли прошляпить подводную цель или неверно ее классифицировать. А «Курск», в свою очередь, мог «залететь» в опасный район, увлекшись дуэлью с иностранной субмариной. Кстати, по некоторым данным, след от неизвестного подводного корабля был обнаружен в 500 метрах от падения К-141. Возможно, досталось и «супостату» (военно-морской сленг). Но он сумел придти в себя и добраться до базы.

В силе остаются и другие версии. В числе наиболее реальных — взрыв ходовой части торпеды в момент, когда она уже подавалась из торпедного аппарата. Правда, так никто и не может сказать, какой должна была быть цепочка мини-катастроф, чтобы все закончилось разрушением минимум двух носовых отсеков. Конструкторы божатся, что прочный корпус лодки, ее внутренние переборки могли выдержать любой мощнейший взрыв, какой только мог случиться в торпедном отсеке.

Между тем, на мысль о бомбометании по своим наводит и упорно выдвигаемая командованием Северного флота версия о столкновении с миной времен Второй мировой войны. Мощности этого боезаряда не столь велики, чтобы нанести такие сокрушительные увечья современному атомоходу, однако, если версию принять на веру, то оплошность самих военных можно отвергнуть как гнусный вымысел.

## Спасали секреты, а не людей

Что может статься с самой лодкой? После фиаско, которое флот потерпел при спасении экипажа, трудно предположить, что современные технические и интеллектуальные возможности ВМФ «вытянут» корабль хотя бы на мелководье, где с ним уже могли бы работать легководолазы. И оставлять без присмотра атомоход, нашпигованный современнейшими ракетными системами «Гранит», которые вызывают живейший интерес у Запада, тоже никак нельзя. Постоянно держать здесь корабли — накладно. Значит, остается одно — взорвать подводную лодку. На том и концы в воду. Но взорвать — значит обречь себя на бесконечные объяснения с международной общественностью по поводу радиационного заражения акватории Баренцева моря. Ведь никто не поручится, что в этом случае заглушенные реакторы и дальше будут отличаться примерным поведением. В общем, и здесь — тупик. Выхода из которого пока никто не видит. Потому что нет потребных понтонов, нет специальных спасательных механизмов, нет нужных судов обеспечения. Нынешняя Россия не готова к решению этой технической задачи. Как она оказалась не готова, морально прежде всего, спасать людей.

Ведь не допускали адмиралы иностранных спасателей к «Курску», скорее всего, из соображений секретности. Как так, найсовременнейший атомоход, и вдруг — выложи его чертежи, ТТД (тактико-технические данные) в руки натовцев. Более того — разреши проникнуть внутрь святая святых — в отсеки суперсекретного «Антея».

Военную тайну нашим адмиралам, может быть, сохранить и удастся. А вот честь — никогда. ■

